# ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

Цэна асобнаго № 15 кап.

Умовы падпіскі на 1917 год.

| За 1 м. | За 2 м. | За 3 м. | За 4 м. | За 5 м | За 6 м. | За 7 м. | За 8 м. | За 9 м |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 р. | 2 р. | 3 р | 4 р. | 5 р. | 6 р. | 7 р. | 8 р. | 9 р. |

Падпіска прымаяцца толькі с 1-го числа кожнага месяца.

Перамена адрэсу—50 коп. Пры зьмені адрэса конча прыкладаць стары адрэс.

Рукапісы павінны быць чытэльна напісаны і толькі з аднаго боку паперы. Кепска напісаныя рукапісы ні чытацца, ні друкавацца ня будуць.

На ліставаньня, перасылку рукапісау і іншыя адказы-павінны прыкладацца маркі.

Газэта палітычная, эканамічная і літэратурная.

Год выданьня I.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Мінск, Захараўск. 18

Умовы друку абвестак:

(На IV боку газэты) за 1 радок шпальту 40 к. за 2 рад. 80 к. за кожны раз.

Асобам, шукаючым працы — 1 руб. за 3 радкі за адзін раз.

№ 13. 1917 г. Пятніца. Выходзіць двойчы на тыдзень. 11 жніуня 1917 г. № 13.


## Працiўнiкам беларускага руху.

Найгоршымі ворагамі нашага руху ёсьць беларусы-перакінчыкі, атрымаўшыя выхаваньне расійскае, ці польскае. Беларусы-каталікі ня хочуць вучыць сваіх дзяцей па-беларуску, адно папольску, каб зрабіць з іх праўдзівых палякаў, хаця самі яны зусім ня умеюць гаварыць па-польску. Так сама беларусы-праваслаўныя стараюцца зрабіць сваіх дзяцей рускімі. І палякі, і маскоўцы сьмяюцца з польскае і рускае мовы нашых перакінчыкаў. Але ім бяды мала: яны ужо прызвычаіліся да зьдзеку і паняверкі над сабою. Лепяй яны будуць псаваць чужую мову, але на сваёй гаварыць ня хочуць. Каталікі-беларусы лічуць сябе за палякаў. На гэта ім скажым, што французы, іспанцы, чэхі і інш. народы каталікі. Дык ці-ж яны палякі дзеля таго,што каталікі?!

Беларусы-перакінчыкі разам з маскоўцамі абрусіцялямі—ворагі 1) нашай мовы і 2) нашай аўтаноміі.

Яны кажуць, што беларускае мовы німа, а ёсьць толькі гаворка (падмова, нарѣчіе) расійскай мовы (гэтак кажуць масквафілы) або польскай (полёнофілы). Іншыя кажуць, што беларуская мова,—гэта мешаніна з расійскае, польскае, украінскае і інш. моваў. Кажуць, што мова расійская зусім добра зразумелая для дзяцей беларусаў. Калі беларуская мова—гаворка расійскай, або польскай мовы і дзеля гэтага яе ні трэба вучыцца, а трэба вучыцца расійскае, ці польскае мовы, дык тагды і іх ні трэба вучыць, бо гэта дзьве гаворкі славянскае мовы, значыць, трэба вучыцца толькі паславянску. Калі беларуская мова ні ёсьць мова дзеля таго, што мае ў сабе элемэнты расійскія, польскія ці украінскія, дык ангельская мова так сама ні ёсьць асобнаю моваю, бо ў ёй зьмешаны элементы нямецкай, французкай і кельтцкай мовы. А як цяжка беларускаму дзіцяці вучыць расійскую мову,—ведама кожнаму. Першыя два гады дзеці вельмі слаба разумеюць «Русское Слово» 1-го і 2-го году. У 1-ай кнізі яны ні разумеюць усіх слоў, якія далічаліcь да катэгорый: «мебель, утварь, цвѣты» і т. д. У 2-ой кнізі яны саўсім ні разумеюць артыкулаў «Изъ дѣтскихъ воспоминаній». Язык іх ні можа выгаварыць шорсткіх расійскіх слоў.

Нам яшчэ кажуць адны, што беларусы ні маюць літэратуры, а другія кажуць, што мы маем адну «любительскую» літэратуру. Першыя пэўна што саўсім ня знаюць нашай літэратуры. Другія трошкі чыталі яе, але так знаюцца ў ёй, што лепяй ня казаць. Ведама, што у нас німа яшчэ ўсесьветных песьняроў дзеля таго ўціску, які мы цярпелі да самага апошняга часу. Але мы маем надзею, што яны будуць. І цяпер ужо наш Янка Купала, або Якуб Колас, або Максім Богдановіч пішуць ня горш, як лепшыя песьняры другіх народаў.

Цяпер, кажуць нашы ворагі, ні час разлучацца, а трэба злучацца; трэба перш зваеваць немца, а тагды ужо дзяліцца. Але да рэвалюцыі нас лучылі вастрогі, ссылка, катарга, ланцугі. Чаму-ж мы тагды ні зваевалі немца? Моц дзяржавы залежыць ад моцы і здароўя кожнай яго часткі. Калі Маскоўшчына, Украіна, Беларусь і т. д. будуць здаровымі і моцнымі, тагды і ўся рэспубліка будзе моцнаю. Вось мы й бачымо, што наймацнейшыя дзяржавы гэта такія, гдзе асобныя народы і краі маюць аўтаномію. Гэрманія злепляна з 25 кускоў, Англія дала шырокую аўтаномію сваім калёніям, Злучаныя Штаты маюць 40 асобных дзяржаў, а ўсё гэта наймацнейшыя дзяржавы. Часовы Расійскі Урад выказаў прынцып самаазначэньня народаў. Сказаць пекныя лёзунгі, мала—трэба правесьці іх у жыцьцё. Мы хочым, каб гэтыя лёзунгі ні засталіся пекнымі, але пустымі славамі, і па нашаму адрэсу пускаюць усякую брахню. Ня дзіва, што украінцы і фінны ні хацелі верыць што гэтыя пекныя словы спраўдзюцца. Мы будзем мірна, але цьвёрда ісьці сваёю дарогай і з яе ні саступім.

Смутны.



## Значэньне Францішка Скарыны у Беларускай культуры.

Калі углядзецца у мінуўшчыну нашае роднае Беларусі, калі прызадумацца аб культурным развіцьці яе, калі зважыць слаўное мінулае і цяперашні упадак,—устаюць перад нашымі вачамі цені вялікіх людзей, якія усе сваe думкі, усю сваю працу, усё сваё жыцьцё аддалі бацькаўшчыні, каб толькі яе зварушыць, каб яе падняць да лепшага, сьвятлейшага жыцьця ды каб назначыць ёй вялікі шлях, якім яна павінна ісьці да культуры, славы і шчасьця.

Адным з найвялікшых такіх працаўнікоў для роднага краю быў доктар Скарына с Полацку.

Вестак аб яго жыцьці і працы захавалася мала. Вядома толькі, што ён вучыўся ў унівэрсытэтах у Кракові, у Падві (Італія), у Чэскай Празі. Чалавек ён быў вельмі вучоны, знаў колькі моваў, бываў на каралеўскім двары і ўсё сваё знаньне, грамадзянскае значэньне пасьвяціў роднаму народу.

З жыцьця Скарыны вядома, што ён радзіўся у Полацку каля 1490 года у багатай сямейцы купцоў. Імя Скарыны Францiск, [як ён сам пішэ у сваей біблії], ні праваслаўнае, а каталіцкае.

Праўда, ў адным старым акці XVI сталецьця называюць яшчэ Скарыну і другім імянем: Юры.

Калі узяць пад увагу, што у XV сталецьці былі на Беларусі прыхільнікі Флёрэнцкай Уніі, што на Беларусі жыў і працаваў маскоўскі мітрополіт Ісідор, выгнаны з маскоўшчыны, калі ўспомніць што канец XV і першая палова XVI сталецьця вядомы у гісторыі рэформацыйным рухам у рэлігіі, што тады рэформацыя начала уплываць і на Беларусь,—можна вельмі сумнявацца, ці Францыск Скарына быў праваслаўным.

Кракоўскі унівэрсітэт у 1504 гаду ня быў яшчэ так клерыкальны, як пад канец XVI сталецьця. Вучылі у Кракові у 1504 гаду і магіі, з якой каталіцкае духавенства доўга яшчэ змагалася, пакуль яе выгнала, як шкодную навуку.

Трудна згадзіцца, каб Скарына, дзеля паступленьня ў унівэрсітэт у Кракові, зрабіўся замест Юркі Францiскам, як гэта пішуць нікаторыя расійскія вучоныя.

Кракоўскі унівэрсітэт у пачатку XVI сталецьця быў вельмі паступовы, і рэлігійныя праканаьня перашкаджаць нікому ні маглі.

Хаця і была тады мода зьменяць імя на другое (рабілася гэта з набожнасьці, запісываючы сябе у манахі і прыймаючы новае манашэскае імя), аднак імя паказывае, што Скарына быў каталік.

Чаму ён быў каталік, калі ім зрабіўся, мы ня ведаем. Наагул, гісторыя гэтаго часу мала апрацавана, пісалі яе чужынцы, ніпрыхільные нам, беларусам. Калі будуць у нас свае сілы, мы шмат чаго цікавага даведаемся з старых архіваў, каторымі багаты нашые гарады, як Вільня, Мінск, Полацк, Віцебск, Магілёў.

Вядома нам з гісторыі, што кніжкі Скарыны, друкаваныя для беларускаго народу, спачатку прыняты былі добра, пасьля толькі, калі загарэлася рэлігійная сварка на Беларусі, начало духавенства іх паліць, даводзючы што каталік Скарына ня мог надрукаваць чыста прававерных (праваслаўных) кніг для цэркоўнай службы. Вось тут імя Скарыны Францiск і было прычынай, што кніжкі яго нішчыліся і паліліся.

Німа дзіва, што цяпер усе кніжкі Скарыны вялікая рэдкасьць. Поўныя экзэмпляры ёсьць толькі у Публічнай Бібліотэцы у Петраградзі ды у Брытанскім музэі у Лёндоні.

Калі узяць пад увагу, што беларуская Біблія Скарыны займае трэцьцяе мейсца у гісторыі культуры (першая друкаваная біблія была нямецкая, другая—чэская), мы зразумеем што Скарына паставіў наш народ, на першае мейсца, паказаў яго культуру усяму вучонаму сьвету.

Першай кніжкай Скарыны быў Псалтыр, друкаваны 6 жніўня 1517 года у чэшскай Празі. У гэтай кніжцы пішэ Скарына: «А то ся стало накладом Богдана Онькова сына радці места Віленскаго».

Адначасна с першай кніжкай друкуе Скарына у Чэскай Празі і свой пераклад Бібліі. Дашлі да нас 22 кніжкі (адзельныя часьці) яго Бібліі. Біблія так сама выдана накладам Богдана Онькова.

Біблёй і закончыў Скарына сваю выдавецкую працу у Чэскай Празі.

Забраўшы прагатаваные заграніцай друкарскіе літэры і усе прылады для друкарні, пераежджае Скарына ў 1524 году у Вільню, каб працаваць у сваіх.

У 1525 гаду выходзюць у Вільні дзьве кніжкі Скарыны: Апостол ды «Малая падарожная кніжыца». Абедзьві кніжкі надрукаваны у домі «найстаршага Бурмістра Якуба Бабіча.

Выданьнем гэтых, вельмі патрэбных у той час беларусам, кніжак, распачаў Скарына нацыанальную беларускую літэратуру. У тым яго вялізарная заслуга.

Хаця і да Скарыны былі надрукованы у Кракові каля 1491 года беларускімі вяльможамі Кішкай, Гаштольдам, Скумін-Тышкевічам 5 кніжак: Осмогласнік (Октоіх), Часословец, Псалтыр, Трыодь постная, Трыодь цветная, але гэтые кніжкі, напісаные агульнай царкоўна-славянскай мовай, ні пачынаюць яшчэ беларускай літэратуры так, як праца Скарыны.

Скарына бачыў скрозь, гдзе быў, жаданьне пісаць і гаварыць сваей роднай мовай, а не навучнай лацінскай, якая тады панавала у Эўропі. Ен першы зразумеў, што родная мова павінна быць заведзена ў малітвах, бо царкоўна-славянская (стара-баўгарская) людзям нізразумелая. А людзі тады думалі, што маліцца і пісаць можна толькі у тэй сьвятой мові, у якой мелі пісаные царкоўные кніжкі.

Сваю звычайную, штодзенную мову уважалі за простую, ня годную дзеля малітвы ці навукі. Ужо тады нават вучоные людзі паміж сабою гаварылі і пісалі кніжкі мешанай мовай, царкоўна-славянскай-беларускай.

Рэформа Скарыны была вялікая: каб кніжкі свае зрабіць зразумелымі, для усіх сваіх братоў беларусаў, ён царкоўна-славянскую мову так прыбліжыў да беларускае, што яна зрабілася папраўдзі зразумелай кожнаму.

Ці былі яшчэ якія іншыя кніжкі Скарыны, мы нічога ня ведаем. Можна верыць, што былі,—толькі час і цяжкіе варункі жыцьця Беларусі, ні захавалі іх нам. Сам Скарына яшчэ жыў у 1535 г. ў Вільні, калі памёр—німа ведама. Так сама німа ведама, што зрабілася з яго друкарней.

Прайшло ўжо ад часоў Скарыны 400 гадоў. Мова наша беларуская ні памёрла, хоць доля яе была цяжкай, крывавай.

За гэтые 400 гадоў народ наш жыў з пераменным шчасьцям. Цяпер мае народ наш можнасьць жыць, развівацца, расьці ды ісьці да мэты свабоды, роўнасьці, знаньня і агульнага шчасьця.

Гадаўшчыну 400 лецьця беларускага друку трэба было б добра адсьвяткаваць.

Усе народы умеюць шанаваць памяць сваіх вялікіх людзей.

Такую слаўную гадаўшчыну нашага друку мы ня можым лепш адсьвяткаваць як аснаваўшы Беларускае Навуковае Таварыство імяні Скарыны. Таварыство такое павінна згуртаваць усе нашыя навучныя сілы, залажыць бібліатэку, заняцца зьбіраньнем усіх беларускіх памятак для народнага музэю, ды пачаць выдаваць патрэбныя нам кніжкі.

Гэта мы зрабіць павінны, калі хочым адрадзіцца да новага жыцьця і калі верым у сваю будучыну.

Ромуальд Земкевіч.



## Выбары гласных у Мінскую Гарадзкую Думу.

30-го ліпня адбыліся выбары да Мінскай Гарадзкой Думы, першы раз за доўгія часы істненьня Мінска адбыліся на строга-дэмакратычных падставах, на грунці так званай, «пяціхвосткі»—агульнай, роўнай, простай, патаемнай і пра-

